


# Ніва

ТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (1068) БЕЛАСТОК, 15 ЖНІЎНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.





*Лета* *Фота Я. Цялушэцкага.*

VIII З'ЕЗД БГКТ

## ПАТРЭБНА САЛІДНАЯ І РЭГУЛЯРНАЯ ПРАЦА

*(Выступленне дэлегата з Бельска Падляшскага Васіля Антыпюка)*

У справаздачы шмат было сказана аб розных напрамках дзейнасці БГКТ, я хачу сказаць некалькі слоў аб беларускай песні. Люблю я слухаць песні з розных рэгіёнаў Польшчы: горцаў, кашубаў, курпяў і іншыя. І я думаю, што многія з нас таксама іх любяць паслухаць. Але цяпер часцей за ўсё пануе ўсюды сучасная песня, а фальклорныя песні захоўваюцца толькі ў сваіх рэгіёнах. Мы не спяваем кашубскіх песень, бо іх не ведаем, кашубы таксама не спяваюць нашых беларускіх, бо іх не знаюць. Але вось наш харавы калектыў „Васілёчкі“ паехаў у турнэ па былому Быдгаскаму ваяводству, тады ўвачавідкі пераканаўся, з якім зацікаўленнем слухаюць нашую беларускую песню на Кашубах і Куявах. Таму неабходна развіваць нашыя харавыя калектывы, іх выступленні патрэбны не толькі нам, але і жыхарам іншых рэгіёнаў нашай краіны.

У справаздачы М. Самоцік падкрэсліў, што ёсць у нас харавыя калектывы, якія працуюць шмат год, але ёсць і такія, што выступяць з адной-дзвюма праграмамі і распадаюцца. Наш бельскі хор дзейнічае ўжо 12 год, і я, між іншым, дванаццаць год у ім спяваю. І ў нашым хоры былі ўзлёты і ўпадкі. Але ў ім ёсць значная група асоб, якая складае аснову хора, яго хрыбет, і яна іменна гарантуе няспынную дзейнасць калектыву. Трэба, каб у кожным харавым калектыве паўстала такая аснова, тады будзе забяспечана яго бесперапынная дзейнасць. І ў гэтым напрамку павінен дзейнічаць і наш актыў, і Галоўнае праўленне БГКТ.

У справе новай арганізацыйнай структуры нашага таварыства хачу заўважыць, што яна не будзе лёгкай для нашага новага Галоўнага праўлення. А гэта таму, што не будзе павятовых праўленняў, а актыў і працаўнікі ГП БГКТ будуць утрымоўваць непасрэдную сувязь з гурткамі. Тут ужо было выказванне, каб пры гмінах паўсталі гмінныя праўленні БГКТ. Я таксама прыхіляюся да гэтай прапановы, толькі хачу дадаць, каб у гэтых праўленнях працавалі людзі на грамадскіх пачатках, бясплатна. Яны маглі б каардынаваць працу нашых гурткоў на тэрыторыі гміны, дапамагаць арганізаваць нашыя культурна-асветныя мерапрыемствы, развіваць супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Аднак асновай актыўнай дзейнасці нашай арганізацыі з'яўляецца самаахвярная праца нашага актыву, калі ён не ўключыцца ў працу, тады ніякая новая структура нам не паможа. Што і казаць, нам патрэбна салідная і рэгулярная праца нашага актыву.

## Цуд без цудаў

Сямяцічы расславіў на цэлую краіну тэлевізійны „Банк гарадоў“. Аднак не памагло б Сямяцічам ані тэлебачанне, ані ўсялякія іншыя цуды сучаснай тэхнікі, калі б самі жыхары гэтага мястэчка найперш не паверылі ў свае сілы, калі б не аб'ядналі сваіх намаганняў, калі б супольна не рашылі вырвацца з адвечнага заняпаду.

Нічога незвычайнага яны не рабілі. Ніякіх цудаў у хроніцы Сямяціч за апошнія гады ніхто не занатаваў. Жыхары гэтага горада проста працавалі — супольна, шчыра, для сябе.

— „Банк гарадоў“ для нас не закончыўся. Ён працягваецца безупынна, — сцвярджае Мечыслаў Матасюк. Па прафесіі ён эканаміст, па пасадзе — дырэктар сямяціцкага аддзела ПКО, а па грамадскаму прызначэнню — радны гмінна-гарадской рады нарадовай, намеснік старшыні праўлення Таварыства сяброў Сямяціч.

Калі з кім-колеч весці гутарку аб сямяціцкіх грамадска-гаспадарчых пераўтварэннях, перш за ўсё называюць прозвішчы заслужанага педагога-пенсіянера Францішка Мілкоўскага і начальніка гмінна-гарадскога ўпраўлення Радомскага, а яны ў сваю чаргу ўказваюць на дзесяткі іншых сваіх сяброў па супольнай справе.

Вядзем мы гутарку ў гарадскім парку. Клумбы ружаў і іншых кветак, назвы якіх цяжка нават сказаць, расцвілі поўнай красой. Між клумбамі жвіраваныя дарожкі. Крыху далей — два сфінксы сочаць за ўездам у сядзібу гмінна-гарадской улады. Стаяць яны тут ужо гадоў 200 — ад таго часу, калі Сямяцічы былі галоўнай сядзібай князёў Ябланоўскіх. Фундаменты іх палаца можна было ўбачыць яшчэ пасля апошняй вайны. Памятаю іх са сваіх школьных гадоў. Тады прабавалі мы падземным тунелем прабрацца з палацовага парку ў бараковы манастыр. Уваход у гэты тунель знаходзіўся ля высокага муру за каменнымі сфінксамі, якія баранілі ўезд у палацовы парк. Гаварылі таксама людзі, што калісьці існаваў падземны пераход з Сямяціч аж у Драгічын. Нам, памятаю, удавалася прабрацца пад зямлёю не далей чымсці на нейкіх 50-100 метраў, а там пачынаўся абвал.

Легенды — добрая рэч. Яны завастраюць чалавечую цікавасць да горада. Аднак ніхто жыхароў Сямяціч не выручаў у перабудове свайго жыцця.

Мой школьны сябра Мечыслаў Матасюк расказвае аб справах сённяшняга дня Сямяціч. Праўда, горад зарабіў шмат грошай на розныя капіталаўкладанні, як для прыкладу тая новая будова, да якой Сямяцічы зараз рыхтуюцца. Будзе гэта велізарны камбінат па перапрацоўцы агародніны і фруктаў, які карэнным чынам зменіць аблічча горада.

Аднак не гэта лічу я найважнейшым. Важнейшым, здаецца, з'яўляецца кемлівасць, ахвота да дзеяння і вера ва ўласныя сілы жыхароў горада. Прыклад першы: стаяў недзе ў полі стары, выслужаны вятрак, яго беражліва разабралі, адрамантавалі і паставілі ля рухлівай дарогі ў Люблін і Варшаву. Стары вятрак стаў атракцыйным заезным турыстычным домам, дзе можна адпачыць, паесці і напіцца.

Прыклад другі: даволі бурлівая рэчка Камянка кожны год залівала шмат балота. Жыхары Сямяціч узяліся супольна за справу — і цяпер маюць дзе пакупацца ў час летняй спёкі.

(Працяг на стар. 2)



*Стары вятрак ператварыўся ў арыгінальны заезны турыстычны дом.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

 

## Новабудоўлі ў Саколцы

Саколка апошнім часам хутка разбудоўваецца. Асабліва з таго часу, калі тут пачало працаваць прадпрыемства будаўнічай сталяркі (ЗСБ), а пасля яшчэ філіял „Спомашу“. За мінулыя 6-8 гадоў колькасць жыхароў у Саколцы амаль падвоілася. Вырас вялікі жыллёвы пасёлак „Зялёнае“ і будуецца яшчэ другі мікраараён „Цэнтр“. Да 1980 года горад узбагаціцца на 450 жылых кватэр у спулдзельчых блоках. Індывідуальнае будаўніцтва за бліжэйшыя чатыры гады павялічыць колькасць сваіх жылых кватэр на 380. Найбольш аднасямейных дамоў будзе пабудавана па вуліцах Беластоцкай і Абвадовай.

У гэтым годзе будуць аддадзены ў карыстанне тры жылыя будынкі, у якіх паселіцца 140 сем'яў.

Жыллёвае будаўніцтва зараз уваходзіць у цэнтр Саколкі, у раёне вуліц: Доўгай, Міцкевіча, Окшэі і Навоткі. Тут будзе ліквідавана каля 40 старых будынкаў, на месцы якіх стануць стройныя шматпавярховыя мураванкі.

Новы жыллёвы пасёлак на дзве з палавінаю тысячы чалавек будзе будавацца па вул. Каспшака.

У жыллёвых пасёлках аддадзены ў карыстанне спулдзельчы гандлёвы дом, тры гандлёвыя павільёны, павільёны шматгалінных паслуг. Жыхары пасёлкаў атрымалі вясной прыгожы, лёгкі ў канструкцыі будынак прадшколля для 120 дзяцей.

Будуецца цэнтр адпачынку, у склад якога ўвойдуць гасцініца на некалькі дзесяткаў начлежных месц і кавярня.

Разбудоўваецца пачатковая школа № 2.

У гэтым годзе будзе распачата пабудова другога бальнічнага будынка.

Будзе адрамантаваны і перабудаваны пры фінансавай дапамозе прадпрыемства будаўнічай сталяркі „Стольбуд“ (яно прызначыла на гэта два мільёны злотых) сакольскі дом культуры. У ім будзе адкрыты пасля рамонту клуб прэсы і кніжкі, зала для гледачоў.

Гарадскія ўлады Саколкі намераны будаваць матэль, які выконваў бы паслугі для ўсіх матарызаваных, колькасць якіх з кожным годам павялічваецца, дык расце запатрабаванне на такога роду паслугі. (ця)

## Ці ведаеце, што...

...загадкай прыроды з'яўляецца карэльская бяроза. Гэта такое дрэва, якому няма цаны. У старажытныя часы ў Фінляндыі і Карэліі кавалкі гэтай бярозы служылі людзям за разменныя грошы. Чаму ж карэльская бяроза такая каштоўная? Непаўторны хвалісты малюнак драўніны, нібы прасякнуты вясёлкавымі фарбамі, стварае ўражанне, што дрэва свеціцца. Кажуць, што мармур не мае такога багацця і разнастайнасці малюнкаў, як жыхарка карэльскага лесу. Расце карэльская бяроза звычайна ў лясных нетрах сярод каменных скал. Некалі за ёю палявалі, як за рэдкім зверам і амаль вынішчылі. (ця)

## Міжваенная Беларусь — вачыма Ванькавіча

Памятаю, вярнуўся я калісьці з коннай прагулкі ў Калужыцах. Было ўжо цёмна, і толькі на небе ішлі апошнія чырвоныя жагві. Раптам заскрыпелі варотні, якімі замыкаліся вуліцы нашых беларускіх вёсак, і кавалькада вясковых, басаногіх хлопцаў паклусавала вярхом на начлег. Я падумаў тады, што стаенны хлопец адвядзе мне каня, а потым буду ляжаць у ложку, чытаючы кніжку ў той час, калі над імі будуць гаснуць гэтыя жагві; потым запаляць вогнішча, дым пацягне ў вільготны лес, запахне печанай бульбай і загаворыць ноччу. Я пачуў, што хараства не трэба перажываць, хараством трэба жыць. Хараство мусіць быць як паветра — патрэбнае і неўсведамляемае, пакуль ёсць.

Гэтыя малыя каняводы не звярталі ўвагі на „жагві“, на небе „плывучыя“. Аднак, браныя на лакеяў, робячы нечуваны скок у боты, ліберыю, харчаванне, кватэру, лёгкую работу, атракцыю — уцякалі часта назад у вёску, тлумачачы бацькам, што „у палацы сонца не відаць“.

Так апісвае сустрэчу з зямлёй свайго дзяцінства пасля доўгай разлукі папулярны польскі пісьменнік Мельхіёр Ванькович у кніжцы „Зелле на кратэры“.

Ванькович, па паходжанню шляхціч, кіраўнік аддзела прэсы міністэрства культуры ва ўрадзе Дашынскага, антыпілсудчык, пасля майскага перавароту пакідае пасаду і выязджае ў невялікі маёнтак, які астаўся яму па маці — Ёданцы. Прывозіць ён сюды таксама сваіх дзяцей, якія вучацца і гуляюць разам з дзяцьмі сялян і разам з імі ўрастаюць у беларускую ваколіцу.

Аднак Ванькович — падпольшчык у перыяд астатніх гадоў панавання царскай дынастыі, барацьбіт за вольную, незалежную Польшчу, адчуў сябе моцна ашуканым уладамі Пілсудскага. Урад дзяржавы, народ якой гнуўся пад цяжарам 150-гадовай царскай, прускай і аўстрыйскай няволі, пачынае сам весці велікадзяржаўную палітыку. Падмацаваны французскім і англійскім капіталам, пачынае вайну з Савецкім Саюзам і заваёўвае заходнія землі Беларусі і Украіны. Пачынае наводзіць там ідэнтычныя парадкі, якія практыкавалі захопнікі адносна палякаў. Ванькович бачыць дыскрымінацыю, сацыяльны і нацыянальны прыгнёт беларускага сялянства. У адным з раздзелаў повесці піша:

„Задалёка пабег бы расказ, падмалёваны толькі злёгку ружовымі колерамі з розных куткоў Польшчы, каб не пачаў растрасаць, ці трагізм, ці памылкі, ці драматычныя немагчымасці, ці дурнота нашай улады на крэсах. Але не было добра. І калі настаўнікі ў Стоўбцах з задавальненнем прадукавалі перада мною беларускіх дзяцей, спяваючых „Эй ты, Вісло, модра жэко“, сумна мне рабілася і страшна. Калі віленскі ваявода гаварыў мне, што беларуская — гэта разнавіднасць польскай, калі старшына валжынскі, навеяны дзесьці з Кангрэсоўкі, карціў мяне, што па-беларуску размаўляю з людзьмі, цяжкі гнеў мяне браў, пачуццё збясчэсчання памяці продкаў, якіх схамяюць“.

Так балюча адчуваў Ванькович метады паланізацыі беларускай культуры. Але таксама сцвярджае ён, што не ўступалі ім метады сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту беларусаў.

„Бачыў на Навагрудчыне ўзбураную грамаду перад домам солтыса, які загадаў ісці ў адлеглы на некалькі дзесяткаў кіламетраў Навагрудак, каб пасведчыць подпісы на петыцыі на беларускую школу, так як бы сам не ведаў іх асабіста. Бачыў у Клецку сялянскі кааператыў, пераследаваны паліцыяй, якая дзень у дзень акладвала карным мандатам кіраўніка за нарушэнне правілаў вулічнага руху, які ехаў роварам па Клецку“.

Ванькович дэмаскуе таксама паганыя практыкі каталіцкага духавенства.

„Бачыў у Маладзечне ксяндза, які гарантаваў звальненне зладзеяў ад паліцэйскіх доследаў у замен за пераход на каталіцызм, пачцівага пралата ў віленскім павеце, які за гэта ж самае даваў па два цэнтнеры збожжа, айцоў мар'янаў у Друі, якім замкнулі манастыр і якіх высялілі „за бальшавізм“, езуітаў у Альбертыне, якія пераапраналіся пакамедыянцку ў праваслаўныя літургічныя шаты, парадыруючы праваслаўную літургію. Бачыў многа беларускіх сялян, бітых па паліцэйскіх закамарках за беларускі рух“.

Пісьменнік успамінае сардэчныя сяброўскія сустрэчы з барацьбітамі за беларускае слова — Міхасём Машарам і Максімам Танкам.

„Сядзеў доўгія гадзіны з вязнем Лукішак, двухгектаровым гаспадаром Міхасём Машарам. Ачароўвала душу імгла лірыкі Машары, імчаліся бурлівыя, гнеўныя акорды Танка — у няведамае, у бездань“.

Успамінаючы паэзію Танка і Машары і канфрантуючы яе з рэчаіснасцю, Ваньковичу прыходзяць часта такія думкі:

„Бо нічога не значыць воля, розум, чалавечае сэрца, дзе няма добрага размажэння сіл, бо нічога не значаць найлепшыя замыслы федэралізуючых пілсудчыкаў, сепаратыстычных краёўцаў, талеранцыйных лібералаў там, дзе за сцяною скок у другое, там дзе па нашай старане сцяны бедна і аўтарытэту не падтрымлівае ані крэдыт, ані інвестыцыі, а толькі паліцыянт“.

Аднак пісьменнік верыць у лепшае будучае беларусаў, у іх вызваленне.

„Аднак жа сэнс падзей ідзе да таго, каб у максімальна планаваным свеце жыў максімальна вольны чалавек. Тады паветра, якое акружае наіўных, старых людзей на Крэсах, прынясе яшчэ хвалю, ужо далёкую ад дзівацтваў і ад вызеваў цемнаты, а толькі перапоўненай бальзамічным подыхам найлепшых спраў, якімі жыў гэты народ.

**Янка Зданоўскі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 14.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Szepczące ściany — film fab. ang. 15.45 Pr. I prop. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Dziennik. 16.15 Obiektyw. 16.35 Podróże z Hagawem — film rozr. 17.10 Za kierownicą. 17.30 Kółko i krzyżyk — teletur. 17.50 Wybacz i żegnaj — film fab. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Opole 76 — Tip-top zamiast dyskoteki. 21.30 Dziennik. 21.50 Teatr Widowisk Komediowych — James Thurber, Elliot Nugent „Prawdziwy mężczyzna”.

—ʃ-ʃ-ʃ—

**Niedziela — 15.VIII.** 7.10 Tech. Rol. Zajęcia wakac. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Najmłodszych. 9.25 Antena. 9.45 W Starym Kinie — Człowiek, który kręci — film USA. 11.00 Klub Sześciu Kont. 11.50 Dziennik. 12.10 Z kamerą wśród zwierz. Ptaki egzotyczne. 12.40 Tydzień Kultury Beskidzkiej — Koncert Galowy. 13.40 Zew natury — film fab. kan. 15.10 Los. Duż. Lot. 15.25 Teatr Małych Form — Rino Lardner — Kto daje? 16.00 Sport. 16.30 Bitwa w przełęczy Apaczów — film fab. USA. 17.55 Wszystko za wszystko z prezesem CEPELI. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Eleonora — odc. V filmu ser. 21.35 Lucjan Kydryński przedst. 22.35 Sport.

—ʃ-ʃ-ʃ—

**Poniedziałek — 16.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Kino Zwierzyńca. 17.30 Echo Stadionu. 18.10 Gorące serca — odc. I filmu ser. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Telewizji na świecie: Król Lir — Wilhlam Szekspir — spektakl TV Ang. 22.40 Polihymnia na wakacjach. 23.10 Dziennik.

—ʃ-ʃ-ʃ—

**Wtorek — 17.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Eleonora — odc. V filmu ser. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Lekt. Pegaza. 17.15 Na wielkim i mał. ekr. 17.40 Fakty, op. hip. 18.15 Studio Młodych. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kobieta z lancetem — film fab. radz. 21.50 Interstudio. 22.00 Kaskaderzy — pr. publ. kult. 22.35 Dziennik.

—ʃ-ʃ-ʃ—

**Środa — 18.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Kobieta z lancetem — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Popołudnie najmł. 17.40 Los. Małego Lot. 17.55 Godzina Stefana Stuligrosza. 18.45 Konsylium cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kino Interesujących Filmów — Jak ptaki bez gniazd — film fab. amer. 22.20 Konsylium cz. II. 22.35 Dziennik.

—ʃ-ʃ-ʃ—

**Czwartek — 19.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Jak ptaki bez gniazd — film fab. amer. 15.45 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie — LIST. 17.10 Trójmecz lekkiej atletyki: Polska—ZSRR—NRD. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Niebezpieczny punkt obserwacyjny — film fab. ang. 21.10 Pegaz. 21.55 Czy lubisz Bacharacha? — pr. muz. 22.15 Dziennik.

—ʃ-ʃ-ʃ—

**Piątek — 20.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Angelika — film fab. węg. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pr. publ. 17.40 Trójmecz LA: Polska—ZSRR—NRD. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Polski Film Tel. 21.20 X Y Z cz. II. 21.50 Wieczorne Kino Letnie — Garaż śmierci — film fab. ang. 23.15 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 13.VIII** — 17.05 Koncert klas. muz. pop. 17.35 Film fab. 19.30 Koncert art. operetki. 20.30 Filmy anim. dla dorosłych.

**Sobota 14.VIII** — 10.00 Koncert zesp. „Aisi”. 11.50 Film fab. 15.00 W świecie zwierz. 17.00 P. nożna. CSKA—Torpedo. 19.30 Spotkanie z olimpijczykami.

**Niedziela 15.VIII** — 9.00 Spektakl. 12.00 Koncert zespołu im. Aleksandrowa. 12.30 Film fab. 14.30 Koncert. 15.30 Panorama międzynar. 16.50 Film fab. 17.40 Piosenka—76. 18.00 Klub film. 20.05 Puchar Europy w pływaniu (kobiety).

## КІНО

**Białowieża** Niewinni o brudnych rękach — fr. 17—18. Urodziny Matyldy — pol. 19—20. Melodie z przedmieścia — radz. 21—22.

**Czeremcha** Droga Luiza — fr. 17—18. Dulscy — pol. 21—22.

**Czyże** Przygody małego Bimbo — rum. Wążżżż... — USA 18—22.

**Dubicze Cerkiewne** Strach — pol. Kapitan Mikula Mały — jug. 18—22.

**Gródek** Obrazki z życia — pol. 21—22.

**Kleszczele** Ned Kelly — ang. 17—18. Miłość bywa zbrodnią — wł. 19—20. Anna i komandor — radz. 21—22.

**Michałowo** Żeglarz znad Dunaju — rum. Włoch szuka żony — wł. 19—20. Opadły liście z drzew — pol. 21—22.

**Mielnik** Podwodna odyseja — kan. 18. Kazimierz Wielki — pol. 21—22.

**Narewka** Dziewczyna — jug. Raj na ziemi — pol. 18—22.

**Nurzec** Bułeczka — pol. 17—18. Z własnej nieprzymuszonej woli — rum. 19—20. Dulscy — pol. 21—22.

**Orla** Yuriko moja miłość — radz. Nona — buł. 18—22.

**Rajsk** Dziewczęta jak iskry — węg. Tomcio Paluch — fr. 18—22.

## Цуд без цудаў

(Працяг са стар. 1)

Сябра Матасюк называе поўны спісак шматлікіх, пераважна культурнага характару мерапрыемстваў, якія на гэты год запланавалі сабе жыхары горада. Перш за ўсё прымаюць яны ўдзел у конкурсе Міністэрства культуры і мастацтва і газеты *„Кур'ер Польскі“* пад лозунгам *„Бліжэй асяроддзя, бліжэй краіны“*, галоўная мэта якога — культурная актывізацыя свайго мястэчка і акружаючага раёну.

— Нашы мясцовыя мастакі, — гаворыць мой субяседнік, — наладзяць выстаўку сваіх палотнішчаў, раскажуць яны пра адлюстраванне Сямяціч і сямяціцкага наваколля ў польскім мастацтве. Падобную выстаўку зробім для прафесіянальных скульптараў і для народных умельцаў. Аб'яўляем конкурс на лепшыя фотаздымкі з Сямяціч і сямяціцкай гміны. Праводзім конкурсы-адгаданкі на тэму: *„Сямяцічы ў літаратуры і публіцыстыцы“*. Наладжваем выстаўку для калекцыянераў, якія цэлымі гадамі збіраюць старыя самавары, шаблі, даўнейшыя манеты і ўсялякае іншае стар'ё. Для дзяцей і школьнікаў арганізуем конкурсы на найлепшыя малюнкі аб сваім горадзе...

Спыню гэты спісак, бо і так усяго не пералічу, але цікавіць іншае пытанне: **чаму падобных мерапрыемстваў не могуць наладжваць у Бельску, Гайнаўцы, Саколцы, Нарве, Нараўцы** і ў іншых мястэчках? Тут жа ніякіх капіталаўкладанняў не трэба. Хопіць толькі хацець.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Тут, дзе красуюцца вось гэтыя прыгожыя жылыя дамы, не так даўно рос яшчэ калючы хмызняк і былі агароды.*



B.Z.Graf. Zam. F-4



*Намеснік прэзаса Ваяводскага праўлення саюза добраахвотных пажарных каманд Станіслаў Садоўскі дэкаруе сцяг Залатым знакам „Заслужаны для пажарніцтва“.*



*Станіслаў Садоўскі дэкаруе Залатым знакам Мікалая Младзяноўскага.*

# СУПОЛЬНЫ ФЭСТЫН

**25** ліпеня ў Кляшчэлях наша таварыства было суарганізатарам урачыстасці кляшчэлеўскіх пажарнікаў, якія адзначалі 50-ую гадавіну свайго саюза. У гэты дзень уручаны ім быў сцяг і Залаты знак за заслугі для пажарніцтва, прызнаны Цэнтральным Саюзам добраахвотных пажарных каманд.

З гэтай нагоды адбылася цікавая ўрачыстая цырымонія. Духавы аркестр пажарнай каманды з Бранска іграў дзяржаўны гімн. Адразу запалены быў агонь славы. Начальнік мясцовай гміны Андрэй Місеюк адкрыў урачыстасць і сардэчна прывітаў гасцей. З дакладам выступіў намеснік прэзаса Ваяводскага праўлення саюза добраахвотных пажарных каманд Станіслаў Садоўскі. Ён жа гэты сцяг удэкараваў Залатым знакам, а затым уручыў Залатыя знакі і дыпломы заслужаным пажарнікам з былых трох паветаў — Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага.

З прамоваю выступіў таксама сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк, які гаварыў аб святкаванні 20 гадавіны БГКТ і аб супрацоўніцтве БГКТ з пажарнымі камандамі.

Вельмі ўрачыста праходзіла ўбіванне гваздзей на чаранок сцяга, апэль загінуўшых і дэманстрацыя.

Пасля афіцыйнай часткі ўсе накіраваліся да месца, дзе падрыхтавана была пляцоўка для выступлення мастацкіх калектываў. А канцэрт быў багаты. Выступілі 4 калектывы БГКТ, а менавіта інструментальная група і эстрадны калектыў „Каласкі“ з Беластока, эстрадная група з Плёсак і харавы калектыў з Дубяжына. Пляцоўку акружылі людзі і з вялікім зацікаўленнем і ўдзячнасцю слухалі нашых БГКТ-оўскіх самадзейнікаў.



*Выступаюць „Каласкі“ з Беластока.*



*Удзельнікі фэстына.*

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**

# ЗЛОСЦЬ У "НАВУКОВАЙ" ВОПРАТЦЫ

**У** „Ніве“ № 29 (1064) Я. Чыквін змясціў рэцэнзію пад загалоўкам „Некалькі слоў аб фальклоры і самаўпэўненасці“. У сувязі з гэтым хачу выказацца на тэму Чыквінскага крытычнага метаду і яго канцэпцыяў.

Кожны падручнік, які друкуецца выдавецтвам Варшаўскага універсітэта, рэцэнзуецца прынамсі дацэнтам. Мой падручнік быў рэцэнзаваны прафесарам надзвычайным. Зразумела, што факт гэты не абавязвае нікога да бескрытычнага ўспрымання зместу падручніка. Аднак, чытаючы публікацыю Чыквіна, не ведаем, ці маем дачыненне з рэцэнзіяй, ці з прыступам нянавісці, ці з вулічнай руганню. Здаецца, усе гэтыя элементы выступаюць у публікацыі.

**Па-першае,** Чыквін гаворыць аб многіх памылках у тэксце і зносках падручніка. На жаль, мае тут рацыю. У падручніку сапраўды многа памылак і ў зносках, і ў паказчыку імён, і нават у тэксце. Некаторыя з іх змяняюць сэнс і логіку сказаў. Тэхнічная падрыхтоўка падручніка цягнулася аж два гады, бо не было і далей няма ў выдавецтве спецыяліста ў галіне беларускай мовы. Прыходзіцца мне ўручную ліквідаваць памылкі у тых экземплярах, якія высылаю знаёмым. Здавалася б, што я павінен тут падзякаваць Чыквіну, раз ён гаворыць праўду. Дзякаваць, аднак, няма за што. Справа ў тым, што Чыквін выразна шчаслівы, выразна цешыцца з таго, што ўбачыў памылкі.

Трактуе ён іх як уступ да татальных атак на падручнік.

**Па другое,** Чыквін страшэнна абураецца, што я адрасую свой падручнік студэнтам, вучням, дзеячам БГКТ і жыхарам Беласточчыны.

Паводле Чыквіна „жыхары Беласточчыны“ гэта абавязкова цёмныя мужыкі, якія не годны трымаць у руках універсітэцкі падручнік. Дзіўная логіка. Чаму гэта селянін не можа чытаць кнігу, якая прысвечана якраз таму, што стварыў гэты селянін — фальклору? Я такую сітуацыю лічыў бы для сябе толькі гонарам, а не няшчасцем. Невядома, чаму для Чыквіна „жыхар Беласточчыны“ гэта абавязкова селянін, а не лекар, аграном, дзеяч культуры, палітычны дзеяч, настаўнік...

**Па трэцяе,** Чыквін ацэньваючы свае пагардлівыя адносіны да сялян, гаворыць аб „якой небудзь Крывой Луцэ ці Патанаючых Бандарах“. Чытаеш і дзіву дзівішся — адкуль у крытыка такая вялікапанская поза? І чым растлумачыць, што Чыквін — абаронца навуковага стылю карыстаецца стылістыкай, якая невядома адкуль выводзіцца. Цяжка сказаць, ці гэта дрэнны гумар, ці тапанімічны фальклор, ці базарная мода празывацца. Чыквіну вядома, што мая вёска называецца Бандары, суседняя — Лука. Чаму гэтыя мясцовасці зрабіліся „Патанаючымі“ і „Крывымі“, дакладна невядома. Вядома, аднак, прыблізна, Чыквін, прамянюючы нянавісцю да мяне, разнечвае гэтую нянавісць і на Бандары і нават на Луку. Не патрэбна! Бандары і Лука тут не прычым. Плявузгаючы на іх, Чыквін дае толькі сведчанне ўзроўню ўласнай культуры і ўласнай скрыўленасці.

**Па чацвертае,** Чыквін крывадушліва сцвярджае, што вельмі ўцешыўся, убачыўшы падручнік, і нават крыкнуў: нарэшце! Праз некалькі сказаў далей наносіць удар па самому сабе, гаворачы, што калі нават у бібліятэцы беларускай філалогіі няма тэарэтычных апрацовак беларускага фальклору, дык у гэтым няма ніякай бяды, бо студэнты павінны чытаць па-руску, па-польску і па-нямецку. І тут Чыквін кампраметуе сябе на ўсіх лініях. Вядома, што ў рускіх (апрача Карскага), у палякаў і ў немцаў няма падручнікавай апрацоўкі беларускага фальклору. З гэтага вынікае, што студэнт, чытаючы запрапанаваныя Чыквіным крыніцы, ніколі не здаў бы экзамен па беларускім фальклоры. Чыквін проста ляпнуў, думаючы, што ад яго прапановы павее высокімі святовымі тэндэнцыямі. Павеяла, аднак, чымсьці зусім іншым.

Апрача гэтага ўсяго, хацелася б спытаць Чыквіна, ці студэнты дзесяткаў замежных філалогіяў у польскіх універсітэтах таксама вывучаюць гісторыю фальклору і літаратур не на мовах тых народаў, да якіх гэтыя фальклоры і літаратуры належаць? Можа, напрыклад, студэнты германістыкі павінны пазнаваць нямецкі фальклор з беларускіх апрацовак? Гэта было б нават дэмакратычна і інтэрнацыянальна — беларусісты з нямецкіх крыніц, а германісты — з беларускіх!

**Па пятае,** Чыквін адмоўна рэагуе на маё сцвярджэнне, што ў нашых бібліятэках вельмі мала публікацый, прысвечаных беларускаму фальклору. Чыквін заяўляе: „Я ў гэта не веру“, а ці не лепш было б прыйсці ў бібліятэку русістыкі і беларусістыкі, або ў бібліятэку Варшаўскага універсітэта і паглядзець, што ў іх ёсць і чаго ў іх няма? Чыквін гэтага ніколі не зрабіў, і я ўпэўнены, што не трымаў у руках большасці даследаванняў Ахрыменкі, Гілевіча, Грынблата, Фядосіка, Кабашнікава, Бандарчыка, Цішчанкі, Ліса, Янкоўскага, не гаворачы ўжо аб Доўнары-Запольскім, Клячкоўскім. Ды гэта, відаць, Чыквіну і не трэба, у яго ёсць свой метад, які называецца „верыцца“ або „не верыцца“.

**Па шостае,** Чыквін запатрабаваў ад мяне замест элементарнага падручніка“ па фальклору „навуковай апрацоўкі беларускага фальклору з Беласточчыны“. Некампетэнтнасць трыумфуе ўсё больш! Штосьці тут у Чыквіна пераблыталася і памяшалася. Студэнты, як вядома, маюць абавязак вывучаць агульнабеларускі фальклор і літаратуру. Прыгожа я выглядаў бы, калі б, ідучы за радай Чыквіна, даў студэнтам замест ведаў аб усім беларускім фальклоры апрацоўку фальклору Беласточчыны. Ці з гэтай геніяльнай рады вынікае, што наступныя часткі „Гісторыі беларускай літаратуры“ таксама павінны быць „грунтоўнай“ апрацоўкай беларускай літара-

**(Працяг на стар. 4)**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

(Працяг са стар. 3)

# ЗЛОСЦЬ У „НАВУКОВАЙ" ВОПРАТЦЫ

туры з Беласточчыны? Бадай так, бо толькі ў такім выпадку захаваем лагічнасць і паслядоўнасць, вынікаючую з прапановы Чыквіна.

**Па сёмае,** Чыквін крычыць, што няма сэнсу гаварыць аб успрыняцці беларусамі бога, сатаны, сонца, зямлі, бо ўсё гэта неарыгінальнае і падобнае на ўспрыняцце гэтых з'яў іншымі славянскімі народамі. Больш таго, Чыквін называе тэксты, прысвечаныя прыродным і непрыродным з'явам, „так званымі беларускімі". Каму патрэбна гэтая фальш і нацыянальны нігілізм? Калі б Чыквін хаця раз прачытаў Карскага, Машынскага, Пяткевіча, Федароўскага, дык ведаў бы, **што** ў беларускіх тэкстах і ўяўленнях непаўторнае.

**Па восьмае,** Чыквін, як бы не верачы ў свае ўласныя сілы, пастанавіў мяне дабіць пры дапамозе „марксістаў". Залічыў ён мяне ў рады буржуазных даследчыкаў, а сябе ў рады марксісцкіх вучоных. Ну што ж, віншую Чыквіна і спачуваю марксістам. Зрэшты, бадай не патрэбна. Думаю, што ні буржуазныя, ні марксісцкія вучоныя нічога пакуль што аб Чыквіну не ведаюць і таму не маюць да яго ні прыхільных, ні варожых адносін. У такой сітуацыі супрацьстаўленне сябе буржуазным вучоным і атоесамліванне з марксістамі сведчыць толькі і выключна аб нясціпласці Чыквіна.

**Па дзевятае**, Чыквін рашуча выступае супраць сцвярджэння аб заміранні фальклору. З майго сцвярджэння аб заміранні фальклору Чыквін абыходзіць вельмі істотную, але для яго нявыгадную частку сказа „занікне як масавая з'ява". Гэтая „дробязь" Чыквіна не цікавіць.

Ужо зараз ёсць цэлыя вялікія вёскі, у якіх нельга запісаць ніводнага тэксту. Чыквін, наколькі мне вядома, ні аднаго разу не паехаў у фальклорных мэтах у вёску. Не мае ён параўнаўчай шкалы таго, што было, і таго, што ёсць у галіне фальклору. Па гэтай прычыне адказу на пытанне — знікае фальклор ці не, шукае ён не ў вёсцы, а ў кнігах.

**Па дзесятае,** Чыквін павучае мяне, што трэба было абавязкова сказаць аб розніцы паміж фальклорам літаратурным і фальклорам музычным, харэаграфічным, медыцынскім, мастацкім, матэрыяльным. Дзіўныя, вельмі дзіўныя патрабаванні і яшчэ дзіўнейшая „навуковая" тэрміналогія Чыквіна. Вядома, што даследчыкі-фальклярысты і звычайныя людзі гавораць аб народнай музыцы, аб народным танцы, аб народнай медыцыне, аб народным малярстве і разьбе, аб народнай матэрыяльнай культуры. Такіх паняццяў, як матэрыяльны фальклор, медычны фальклор, мастацкі фальклор, даследчыкі не ўжываюць. Зрэшты, і звычайны, нават малаадукаваны чалавек ніколі не пераблытае песню з танцам, казку з лячэннем, загадку з жартам, прыказку з музычнымі тактамі. Усё гэта для ўсіх зразумела. Не зразумела толькі Чыквіну. Але для аднаго Чыквіна не будзем высняць даўно высненае.

**Па-адзінаццае,** Чыквін сцвярджае, што падручнік напісаны на каленях — для беларускіх дзетак. Цікава, для каго і на якой частцы цела напісаў сваю рэцэнзію Чыквін?

**Па-дванаццатае,** найбольшай катэгарычнасцю і татальнасцю адзначаюцца заўсёды людзі, якія не маюць ніякіх або вельмі мізэрныя навуковыя дасягненні. У іх няма адказнасці за слова. Калі Чыквін урэшце нешта напіша, абавязваюся зарэагаваць рэцэнзіяй. Не будзе гэта рэцэнзія п.з. „Помста" або „Я табе пакажу". Пачну яе, як гэта робяць усе адказныя людзі, ад дасягненняў, плюсаў, закончу крытычнай добразычлівасцю.

**Па-трынаццатае,** Чыквін у сваёй рэцэнзіі апрануўся ў балахон навуковасці, прыкрыўшыся дадаткова „марксісцкімі" шатамі. Нягледзячы на гэта, са швоў буйна прарасла злосць — галоўная філасофія Чыквіна.

Да некаторых спраў, вынікаючых з „рэцэнзіі" Чыквіна, вярнуся ў наступных артыкулах.

**А. Баршчэўскі**

**Моладзь працуе і адпачывае**

# ГУФЕЦ У ГРУДКАХ

Трыццаць восем дзяўчат з Беластоцкага ліцэя медсясцёр працавала сёлета ў добраахвотным гуфцы працы ў Грудках, непадалёку ад Белавежы. Прыехалі сюды адразу пасля заканчэння вучобы ў школе. На месцы атрымалі рабочую вопратку, абутак і галаўны ўбор — шапкі і хусцінкі. Працавалі найбольш пры абжынцы маладняку ў пушчы, абкошванні абочын пушчанскіх трактавых дарог, ачышчэнні пропустаў, праз якія не магла ўжо плысці вада. Працавалі дбайна, адказна і сістэматычна перавыконвалі планавыя паказчыкі. Кожная з дзяўчат зарабіла амаль па дзве тысячы злотых. Будучыя медсёстры многа працавалі таксама на карысць мясцовага асяроддзя. Вялі яны культурную дзейнасць, дэманстравалі кінафільмы і чыталі лекцыі на прафілактычныя тэмы, аб ахове здароўя і аб гігіене на вёсцы. Перш за ўсё для мясцовага насельніцтва, а акрамя таго для жыхароў Белавежы і Будаў. Запрашалі да сябе мясцовую і з іншых мясцовасцей моладзь на традыцыйныя кастры і супольна арганізоўвалі цікавыя конкурсы, напрыклад, грамадска-палітычных ведаў, мастацкія выступленні і спартыўныя розыгрышы. Часта адбываліся ў гуфцы танцы ў „зялёнай" святліцы. І ўсе былі ім за гэта ўдзячны.

Дзяўчаты часта наведвалі Белавежу, Буды, Тэрэміскі, Пагарэльцы і іншыя ціхія людскія паселішчы і вельмі зжыліся з іх жыхарамі. Былі яны ў іх і з кінафільмамі, і тады, калі збіралі добраахвотныя складчыны на Польскі камітэт грамадскай дапамогі (ПКПС). Утрымоўвалі пастаянны кантакт з белавежскім цэнтрам аховы здароўя, з домам дзіцяці. У цэнтры здароўя павесілі ладныя насценгазеты і іншыя дэкарацыі, паклалі на століках у прыёмнай цікавыя кніжачкі на тэмы, як зберагаць самы дарагі скарб чалавечы — здароўе, а ў доме дзіцяці падарылі дзецям прыгожыя, зробленыя самастойна цацкі.



*Пасля працы заслужаны абед.*

Як штогод (гуфец будучых медсясцёр працуе тут ужо дзесяць год), так і ў гэтым годзе дзяўчаты наведалі месцы пахавання ахвяр фашызму і ля помнікаў паклалі букеты палявых і лясных кветак, гэтым самым свята ўшаноўваючы памяць аб загінуўшых.

Дзявочы ОГП наведалі дырэктар і візітатар Аддзела здароўя Ваяводскай управы, прадстаўнік Ваяводскага камітэта партыі, сакратар белавежскай гміннай управы і дырэктар белавежскага ГОК-у, прадстаўнік ТППР, салдаты войск аховы дзяржаўнай мяжы, журналісты, удзельнікі ОГП з іншых мясцовасцей, напрыклад, з Пшэўлокі.

У багата ілюстраванай хроніцы з жыцця ОГП, мы натрапілі на ўклееены ў выглядзе дрэва лісток паперы, запісанай візітатарам сярэдняга медычнага школьніцтва. Візітатар напісала, што вельмі высока ацэньвае працу дзяўчат з ОГП з Беластоцкага ліцэя медсясцёр, што мае найлепшыя словы прызнання юначкам, радзе гуфца, іх апякункам за надзвычай добра арганізаваны лясны гуфец, які можа служыць прыкладам для ўсіх школ у нашым ваяводстве а нават ва ўсёй краіне. І што культурна-асветная дзейнасць або інакш пазапрадукцыйная надоўга астанецца ў памяці шматлікіх жыхароў пушчанскіх вёсак усёй белавежскай акругі.

У хроніцы аднатаваны самыя важныя для гэтага ОГП факты і падзеі. Між іншым аб тым, што гуфец ліцэя медсясцёр у Беластоку заваяваў у мінулым годзе два першыя месцы: у ваяводстве і ў краіне ў спаборніцтве на найлепшы лясны ОГП. Так было і ў папярэднія гады. Таму пераходны кубак дырэктара Акруговага праўлення дзяржаўных лясоў (ОЗЛП) будучыя медсёстры здабылі на ўласнасць сваёй школы.

Як у ніякім іншым гуфцы, вельмі актыўна працаваў рэдакцыйны камітэт, які рэгулярна выдаваў старанна рэдагаваную і густоўна ілюстраваную сваю „газету" пад загалоўкам „Юнак". А трэба адзначыць, што яе „журналісты" добра арыентаваліся ў справах, якімі жыве актуальна наша ваяводства, а таксама краіна. Весткі аб гэтым мелі з штодзённай свежай прэсы. Вялікую ролю адыграла таксама іх начытанасць.

Удзельнікі грудкаўскага ОГП, карыстаючыся з пабыўкі ў іх журналіста „Нівы", прасілі змясціць на старонках беларускага тыднёвіка шчырыя словы падзякі за сэрца, аказанае ім, за вялікі клопат аб іх і вялікі ўклад працы ў вядзенні гуфца камендантцы Лідзіі Карпюк і намесніку каменданта Надзеі Раманюк, з пажаданнямі добрага летняга адпачынку.

Мы выконваем гэта з прыемнасцю.

**Янка Цялушэцкі**
Фота **А. Карпюка**



*На сустрэчы ўдзельніц ОГП у Грудках з дзяўчатамі з ОГП у суседняй Пшэўлоцы.*

**Беларуская літаратура** — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА VII**

**Прыродаапісальныя і патрыятычныя творы.** Прыродныя і патрыятычныя матывы не былі ў творчасці Паўловіча занадта частымі. Аднак, у спадчыне знаходзім крыху вершаў, у якіх пейзаж роднай зямлі і пачуццё прывязанасці да роднага краю з'яўляюцца дамінуючымі. Да такіх твораў трэба залічыць вершы: „Над Свіслаччу", „На беразе Свіслачы", Летняя ноч", „Асенняя пара", „Восень", „Трывога", „Родныя малюнкі", „Родны край".

Пералічаныя загалоўкі сведчаць аб частай паўторнасці тэм у прыродаапісальнай і патрыятычнай лірыцы паэта. Паўтараецца тут і матыў роднага краю, і восені, і Свіслачы.

Верш „Над Свіслаччу", — гэта ілюстрацыя статычных з'яў у прыродзе. Дамінуюць у творы слухавыя і зрокавыя эфекты. Гэта значыць, што ў творы аўтар апавядае аб тым, што бачыць і чуе. І толькі ў апошняй страфе адступае ад зрокавага і слухавога апісанняў.

*Мой кут, дзе у цішы глыбокай*
*і бязмоўнай*
*Знаходжу я на волі заўсягды*
*Для сэрца супакой ад мары*
*непазбуднай,*
*А для душы адхланне ад бяды.*

Страфа гэта мае рэфлексійны характар. Паэт акрэслівае ў ёй значэнне кантакту з родным пейзажам для духовага здароўя.

Верш „Над Свіслаччу" — гэта твор рэалістычны . Аднак, ёсць у ім адна карціна, якая выламліваецца з рэалістычнай нормы. Аўтар апісвае ноч, зоркі, туман. І пры гэтым гаворыць, што „за рэчкаю у далі квяцісты луг зіяе, як дыван". Вядома, што тады, калі на зямлі ноч, зоркі і туман, дык у далечыні мы ніколі не ўбачым „квяцістага луга". Не маем за гэта прэтэнзіі да аўтара. Ён проста ілюструе тут не аб'ектыўныя, а суб'ектыўныя рэальнасці. Прадстаўляе не тое, што сапраўды ёсць, а тое, што паэту здаецца.

Другі верш „На беразе Свіслачы", як аб гэтым ужо сведчыць загаловак, таксама прысвечаны Свіслачы. Розніца паміж гэтым вершам праяўляецца ў тым, што першы быў прысвечаны Свіслачы ўначы, а другі — Свіслачы ўдзень. У вершы „Над Свіслаччу" дамінаваў настрой цішыні, спакою, меланхоліі. І гэта зразумела. Такі настрой амаль заўсёды выклікае глыбокі летні вечар ці летняя ноч. Твор „На беразе Свіслачы" характарызуецца дынамікай і рухам вады, лісця і травы. У суме верш можам аднесці да пейзажнай ідыліі. У ім так, як і ў вершы „Над Свіслаччу", паказана аздараўляючае ўздзеянне прыроды на чалавека. Верш канчаецца таксама рэфлексійнай страфой.

*Ад нязгод і думак*
*Аддыхнеш душой*
*І ідзеш дахаты*
*Позняю парой.*

У гэтым творы зноў маем дачыненне з пэўнай непаслядоўнасцю. Праяўляецца яно ў страфе:

*Вербанькі сівыя*
*Дрэмлюць нада мною,*
*Галы ўніз спусцілі*
*І шумяць ліствой.*

Вядома, што дрэва, якое „дрэмле", не можа „шумець". Ведаем аднак і тое, што паслядоўнасць лірыкі праяўляецца ў яе непаслядоўнасці.

Верш „Летняя ноч" у сэнсе стылістыкі і размеру радка вельмі падобны на верш „На беразе Свіслачы". Твор „Летняя ноч" выразна дзеліцца на дзве часткі. Першая частка — гэта апісанне летняга вечара — і тут верш мае тыпова прыродаапісальны характар; другая характарызуе сямейную працу, змучанасць жыхароў сяла, якія вяртаюцца з поля ў вёску, і вось гэтая частка верша можа быць залічана да грамадскай лірыкі.

Па сутнасці і першая і другая часткі верша належаць да паглыбленых мастацкіх характарыстык. Можам гаварыць тут аб пэўнай павярхоўнасці паэтычнага вобразу. Справа ў тым, што сказанае, уласна кажучы, адносіцца да ўсіх прыродаапісальных вершаў Паўловіча.




## МУХІ І БЛОХІ

— Далей так быць не можа, — забілі мухі ў хамут і ўсёй арміяй вырашылі пакінуць горад. Выхуджаныя — адна шкура ды косці, з галавой, павісшай данізу, як у цэпе біяк, ледзь перабіраючы нагамі, апусціўшы абяссіленыя крылы, цягнуліся хаатычным натоўпам, пакідаючы за сабой на пыльнай дарозе тых, душа якіх у неба ўздымалася. Сілы апускалі з кожным крокам. А тут яшчэ і поўдзень якраз. Сонца так і прыпякае. Зышлі мухі з дарогі ў роў, выцягнулі апухшыя ногі, аж косці затрашчалі, і давай адпачываць, хапаючы ўвесь час раздзяўленымі мордачкамі гарачае паветра. Ці многа, ці мала так адпачываў мушыны табар, аж глядзяць — цэлы пагон блох насупраць валачэцца. І ўсе быццам бы падстрэленыя. А змардаваныя аж страх. Пот цурком цячэ. Бакі так паўпадалі, што жывот аж да хрыбта прырос. І так шлапаючы ды падаючы мордамі на каменне, на мух напхнуліся і паваліліся каля іх. Слова па слове — і гутарка завязалася.

— Ды гэта вы, блохі? А божачкі! Да чаго ж вы дарабіліся? Вы ж сядзець не можаце, а яшчэ ў падарожжа сабраліся!

— Даражэнькія! Ворагам сваім гэтага не жадаем. Ужо і выхаду іншага не было. Шмат год жылі мы ў вёсцы. Але што гэта за жыццё? Адна мука толькі. Ну, гляньце самі. Пакуль прыдзе чалавек з поля, то і ноч павісне над зямлёю. Яшчэ сёе-тое на панадворку зробіць, то ўжо і позняя. А потым змучаны, або раздзеўшыся, або і не, бабах на ложак і храпе. Пакуль мы вылезем з сваіх закамаркаў, пакуль дабярэмся да цела, каб глынуць глыток крыві (добра калі трапіш адразу на адпаведнае месца, а калі на косць, то і зубоў наломіш), то і пеўні праспяваюць. І чалавек як на каманду зрываецца. Кароў гнаць у поле трэба. Ну, і канец нашага балявання. Галадай, брат, цэлы дзень, а ўначы зноў невядома, ці пажывішся. А калі і ўдасца, то што гэта за яда! Кроў спрацаваная, горкая. А цяпер яшчэ гэтых хімічных угнаенняў ды розных трутак навыдумоўвалі. Збаўлення ад іх няма. Усюды поўна. Ды вось параілі нам добрыя істоты, што ў горадзе жыццё лёгкае. Там прынамсі людзі талковыя. Спаць любяць доўга, не надта спрацаваныя, бо ўсё па гадзінах. І чаго ж больш трэба. Забраўся дзесь у тую пярыначку, якой прыкрываюцца, і ласуйся да позняй раніцы саладзенькаю крывёю. Тут ўсё чысценькае, пахучае. Ах! — уздыхнулі блохі і аж сліна пакацілася ды вочы пад лоб палезлі.

— А мы, міленькія, з горада, — забзыкалі мухі. — Не было нам там жыцця, ой не было. Усюды парадачак, чысціня. Нават крышка нідзе не ўпадзе. Рассыплецца на стале цукар, дык раз-два яго змятуць. Нападае крышачак, дык пальчыкам вызбіраюць. А п'юць чай, дык як пачнуць лыжачкай аб шкляначку валіць, дык нават капелькі гэтай саладзенькай вадкасці не застанецца, каб паласавацца. І што гэта за жыццё! Галадуха і больш нічога. Ідзем у вёску. Там, як казалі, то жыццё залатое. Усяго поўна па самыя вушы. Спяшаюцца людзі ў поле, дык і пакінуць усё на стале. А там чаго толькі хочаш: і цукар, і хлеб, і суп, і сала. Еш, хоць распеража́ся. Наеўся — ды сядзі на падаконніку і грэйся на сонцы. Вось дзе жыццё! Там мы зажывём, — з агеньчыкам надзеі забзычалі мухі і, падняўшыся, пацягнуліся ў напрамку вёскі.

А блохі таксама не трацілі дарма часу. Пайшлі гарадскога жыцця шукаць.

**Бізун**

## АБ СКУПЦЫ ТРУСКАЛАК У БЯЛЕВІЧАХ

Наведалі мы пункт скупкі трускалак у вёсцы Бялевічы ў Гарадоцкай гміне. Яго ад 1961 года нязменна вядзе зборшчык Уладзімір Дудзік. У мінулым годзе ён купіў 50 тон „Фаварыткі" і пазнейшага сорту трускалак — „Сэнгі Сэнганы". Сёлета запланавана купіць 60 тон трускалак, але было іх значна менш. Найбольш трускалак прывозілі на бялевіцкі пункт скупкі сяляне з Меляшкоў, калоніі Меляшкі, Бялевічаў, Вейкаў, Валілаў-вёскі, Пянькоў і Грыбаўцоў. Найлепшымі дастаўцамі былі: Наташа Госцік з Бялевічаў, Андрэй Грыцук з Валілаў, Януш Доўжык з Пянькоў.

Спулдзельня „Вітаміна" запэўніла на сёлетні трускалкавы сезон дастатковую колькасць кошычкаў-лубянак.

(ця)

Ужо пяты год працуе пункт скупкі ягад у Ляшуках у гміне Нараўка. Вядзе яго Люба Харкевіч, дачка Якіма, жыхарка вёскі Ляшукі. Сёлета яна скупіла ад мясцовых жыхароў больш 1630 кілаграмаў трускалак. (У мінулым годзе было іх каля трох тон). Найбольш гэтай каралевы лета даставілі на пункт скупкі Анна Студзянна і Яўгенія Харкевіч з Ляшукоў, Міхась Пташынскі з суседняй вёскі Міхнаўкі і ўсе іншыя, якія даставілі крыху менш. Сёлета, як і ў мінулым годзе, усім дастаўцам хапіла лубянак.

## На ляшуцкім пункце скупкі ягад

Ад 12 ліпеня зборшчыца Люба Харкевіч купляе чорныя ягады, называныя інакш чарніцамі. Дагэтуль, да 30 ліпеня, з ляшуцкай акругі на прадпрыемства лясной прадукцыі „Лес" у Гайнаўцы паступіла 1437 кілаграмаў чарніцы. Найбольш ягад прыносяць Анна Харкевіч і Фаня Харкевіч з Ляшукоў, Юзэф Астроўскі з Шымкаў, Серафіма Тарасевіч з Сушчы і іншыя. За адзін кілаграм чарніц прадпрыемства плоціць 25 злотых. Збіраць ягады, асабліва дзецям, аплачваецца. Такім чынам яны могуць назбіраць шмат грошай на свае ашчадныя кніжачкі, або купіць сабе нешта, аб чым даўно марылі.

**(ця)**

## ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ




*Ой, Божэ, Божэ, з такэю годыною —*
*проклялa маты малэю дытыною,*
*жэб ны плакалі мої кары очэнькі.*
*Ны так проклялa, як така*
*вродылася —*
*нэма того дня, коб я ны журылася,*
*нэма того дня, коб я ны журылася.*
*Нэма того дня й нэма тэі ночэнькі,*
*жэб ны плакалі мої кары очэнькі,*
*жэб ны плакалі мої кары оччэнькі.*
*Ой Божэ, Божэ, што тая любоў*
*можэ!*
*Нанысы, Божэ, кого я люблю жэ,*
*Нанысы, Божэ, кого я люблю жэ.*
*Ны нат і його, як таварышча його,*
*я роспытаю про здороўечко його,*
*я роспытаю про здороўечко його,*
*я роспытаю про здороўечко його.*
*— Ой, чы жыў-здороў, чы ўмэраты*
*думаеш,*
*Чэрэз ворогі покідаты думаеш,*
*чэрэз ворогі покідаты думаеш?*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

МІНІ-ІНТЭРВ'Ю СА ЗДЫМКАМ

## У САКОЛЬСКАЙ КНІГАРНІ

Будучы ў Саколцы, я заглянуў у тамашнюю кнігарню, што на вуліцы Беластоцкай 10. Канчалася якраз першае паўгоддзе, і не выпадкова, што яе кіраўніка Міраслава Малявіцкага я застаў схіленага над абшырнымі „плахтамі" розных справаздач. Каб лішне не займаць часу доўгімі размовамі, я задаў яму ўсяго некалькі пытанняў:

— Колькі асоб працуе ў кнігарні і на якую суму маеце кніг у ёй?

— Разам са мною працуе тут тры чалавекі, г. зн. мой намеснік Рамуальда Панасевіч, прадавец Юзэфа Ус, ну, і я. На паліцах у нас кнігі на суму каля аднаго мільёна злотых.

— Як разыходзяцца кнігі, на якую суму ў сярэднім прадаеце іх на працягу аднаго дня, месяца, года?

— Наогул пакупнікоў на кнігі ёсць многа і з кожным годам іх у нас прыбывае. У сярэднім прадаем за дзень на 6-7 тысяч злотых, за месяц — на 170 тысяч, а на працягу мінулага года прадалі мы на 2 мільёны 100 тысяч злотых розных выданняў.

— Ці маеце ў продажы савецкія выданні?

— Так, але надта мала, каля 250 выданняў. Савецкая літаратура карыстаецца ў нашага чытача значнай папулярнасцю. Разыходзіцца яна ў месяц на 1 500 злотых, а за год — на звыш 20 тысяч злотых. Людзі набываюць класікаў рускай і савецкай літаратуры, альбомы, слоўнікі, энцыклапедыі.

— Што з польскіх выданняў карыстаецца найбольшай папулярнасцю?

— Перш за ўсё творы лаціна-амерыканскіх пісьменнікаў, а таксама рускіх і савецкіх аўтараў у перакладзе на польскую мову. Зразумела, ім не ўступаюць у папулярнасці класікі польскай літаратуры. Затым хутка разыходзяцца выданні з матэматычна-прыродазнаўчых навук, маладзёжная і дзіцячая літаратура, працы па літаратуразнаўству, а таксама з выбраных раздзелаў тэхнікі, ну і, зразумела, кнігі па сельскай гаспадарцы. Найменш разыходзяцца выданні з серыі „Вавельскія галовы", некаторыя кнігі грамадска-палітычнай літаратуры.

— Ці праводзіце вы якія-колечы мерапрыемствы па папулярызацыі кніг?

— А як жа ж! Супольна з мясцовымі бібліятэкамі арганізуем аўтарскія сустрэчы, кніжныя кірмашы на вуліцы, продаж кніг на прамысловых прадпрыемствах, а таксама продаж кніг у вёсках спецыяльнымі кальпартэрамі.

— Што вам перашкаджае ў працы?

— Па сутнасці, нічога. Кнігарня новая, здадзеная ў карыстанне ў лістападзе 1974 года, як бачыце, светлая, утульная, прыемная. Адно толькі — зімою тут надта холадна. Але не на столькі, каб моцна змерзнуць. Запрашаем!

Тэкст і фота **І. Снарскі**



*Кіраўнік кнігарні М. Малявіцкі са сваімі супрацоўнікамі.*

## Тытуняводы

Ваколіцы Дубровы Беластоцкай вядомыя тым, што ў кожнай там вёсцы амаль усе жыхары займаюцца тытуняводствам. Вырошчванне гэтай культуры добра аплочваецца гаспадарам, бо пры добрым ураджаі з аднаго га можна атрымаць тры тоны тытуню. Дзяржава плаціць сялянам за адну тону тытуню 35 тысяч зл. Па цэлым гектары там наогул не садзяць, пераважна па 0,5-0,7 га. Але ёсць і такія гаспадары, як Іван Лаўрыновіч з Гарасімавіч, якія не садзяць ніколі менш тытуню, як 1 га.

У гміне Дуброва Беластоцкая сяляне маюць таксама многа сенажацяў, якія знаходзяцца ў даліне рэчак Сідаркі і Бобры. Там менш як пяць дойных кароў мала ў каго ёсць. У сярэднім гадуюць па 7-10 штук быдла. Ад продажы дзяржаве малака сяляне такіх вёсак, як Ячна, Гарасімавічы, Хільмоны, Крапіўна і інш. маюць вялікія даходы.

(мх)




У прасторным мураваным будынку знаходзіцца злеўня малака ў вёсцы Ляшукі (гміна Нараўка). Зборшчыцай працуе чацверты год Ніна Кунцэвіч. Яна прымае малако ад сялян з Міхнаўкі, Ляшукоў, Церамкоў, Кардона, Парослага. Ад 107 дастаўцаў. Кожны дзень збіраецца ад 1800 да 1900 літраў малака. Потым трактарысты адвозяць яго на малочнае прадпрыемства ў Гайнаўку. Найбольш малака прадаюць: Міхась Пташынскі і Серафім Матвеюк з Міхнаўкі — па 1500 літраў у месяц. Па 1200 літраў дастаўляюць: Канстанцін Харкевіч, Міхал Барташэвіч, Мікалай Харкевіч, Канстанцін Засім — усе з Ляшукоў і Вера Рубчэўская з Церамкоў. Крыху менш (па 1000 і 1100 літраў) — Павел Харкевіч, Мікалай Засім, Шымон Харкевіч і Пётр Харкевіч — усе з Ляшукоў, Георгі Харкевіч і Яўген Радзівонік — з Міхнаўкі і Мікалай Барташэвіч з Кардона.

Наведалі мы гаспадароў: Міхася Пташынскага і Серафіма Матвеюка з Міхнаўкі і Веру Рубчэўскую з Церамкоў.

Міхал Пташынскі гадуе пяць дойных кароў расаў чырвонай і нцб. Кожны дзень дастаўляе на пункт скупкі у сярэднім 50 літраў малака, у якім 4-4,3% тлушчу. У Міхала Пташынскага добраўпарадкаваныя пасбішчы і сенажаці. Каровы пасуцца ў загарадках, часта называных кватэрамі, дык можна іх пераганяць з аднае ў другую. На зіму гаспадар прызапасіў шмат добрага сена — сеянкі.

Селянін Серафім Матвеюк мае значны абшар зялёных угоддзяў і электрычнага пастуха. Пасбішчы і сенажаці ў яго асабліва дагледжаны. З сенажацяў гаспадар сабраў яшчэ ў ліпені другі пакос. Ён грамадскім чынам працуе ў камітэце дастаўцаў малака, які дзейнічае пры ляшуцкай малачарні.

Вера Рубчэўская, дачка Карпа, з Церамкоў гадуе сем кароў, у тым ліку тры дойныя, мае мураваны кароўнік, новую стадолу, дагледжаныя пасбішчы і сенажаці. Для кароў спецыяльна вырошчвае кармавыя буракі і моркву, якімі корміць зімою. Гаспадыня намерана купіць электрычнага пастуха.

(ця)



# ТРЫБУНА чытачоў

## Што з ураджаем

Як сцвярджаюць сяляне Крывяціч, слаба ў гэтым годзе расце агародніна. Вельмі слабы быў ураджай трускалак. Пачалася ўборка рапсу — зерне яго сёлета буйнае. Дажджы вылажылі крыху азіміны.

**Іван Кірызюк**

## Добрая падрыхтоўка да жніва

Шудзялаўская СКР з сядзібай у Паўночным Востраве мае на сваёй тэрыторыі 7786 гектараў усіх пасеваў. Больш 300 гектараў зямлі СКР засеяла на зямлі дзяржаўнага фонду. Да жніўнай кампаніі падрыхтаваліся тут добра. Ёсць 12 камбайнаў і 33 снопавязалкі, якія поўнасцю гатовыя да жніва. СКР апрацаваў план абслугі ўсіх вёсак. Будуць абслужаны вёскі брыгаднай сістэмай. Каб, як паехаць на вёску, то ўсім зжаць усе пасевы, а потым на другую вёску. СКР лепш забяспечыўся запчасцямі, як у мінулым годзе. У час жніва будзе выязджаць самаход тэхнічнай дапамогі, каб на месцы настроіць сапсаваную машыну. Другі самаход будзе падвозіць халодныя напіткі, а перш за ўсё мінеральную ваду „Крынка“, ды бутэрброды і кансервы.

**Віт**




**З МЕСТА ДА СЯЛА**

*Былі ў нас вёскі велькі,*
*а цяпер малыя,*
*маладыя ўсе пайшлі —*
*асталісь старыя.*

*Жыць у блёку вельмі добра:*
*і вада і цеплыня;*
*толькі грошай на блёк трэба*
*ўзяць ад бацькі з кішаня.*

*Перад святам маладыя*
*едуць все на вёску,*
*каб ім бацька палажыў*
*у валізку трошку.*

*Давай, бацька, кусок сала*
*і ў дакладку каўбасу*
*пару гусак і індыка,*
*а то хату растрасу.*

*А на стол пастаў бутылку*
*самагонкі чыстай,*
*каб твой сын у месце*
*жыў, бы той міністар.*

*Дзень за днём праходзіт*
*хутка, як страла,*
*зноў сын з места едзе*
*к бацьку да сяла...*

**Насця Грыко**

польскіх улад. Але яны з'явіліся, ды не абы-хто — навагрудскі ваявода Рачкевіч і беластоцкі ваявода Папеляеўскі. Прыслаў свайго назіральніка і Рыдз Смігглы. Ад злосці на няпрошаных гасцей, ад бяссілля выставіць паноў за дзверы крывёю наліўся твар „атамана“, пачарнела радзімая пляма на левай шчацэ. Але дзявацца не было куды, давялося адкрыцца перад ваяводамі, сказаць, што са стварэннем супрацьпартызанскіх атрадаў пакуль што нічога не выйшла. І Шурпа, і Гаварухін, і Дзяргач скардзіліся, што няма ахвотнікаў ісці ў „паляўнічыя“, прыводзілі шматлікія тлумачэнні: страх перад партызанамі, бальшавіцкая прапаганда, невялікія аклады „паляўнічых“.

Ваяводы моршчыліся. Аплявухай для Балаховіча была рэпліка Рачкевіча:

— Тлумачэннямі Муху-Міхальскага не знішчыш. Нам патрэбны не тлумачэнні, а „паляўнічыя“, патрэбны супрацьпартызанскія атрады. А іх няма Падвялі вы нас, Станіслаў Нікадзімавіч.

— Будуць „паляўнічыя“, будуць атрады. З імі я раздушу Муху. У мяне ёсць план, — пераконваў Булак-Балаховіч. У яго і на самай справе быў план...

*(Працяг будзе)*

## Скупка і кантрактацыя

Закончылася скупка плёнаў мінулага года. ГС у Нараўцы па-рознаму выканаў гэтыя заданні. Для прыкладу, у скупцы збожжа план выкананы толькі ў 29,3%, калі ў скупцы бульбы — у 128%. Відаць, што сяляне большую колькасць збожжа пакідаюць на корм жывёле. Бо тут варта адзначыць наступную сітуацыю: за пяць месяцаў гэтага года план пакупкі свіней выкананы ў 106%, а быдла ў 124%.

Вялікую ўвагу звяртае мясцовы ГС на кантрактацыю. І так, за апошнія 5 месяцаў план кантрактацыі 4 падставовых збожжавых культур выкананы ў 100%. 750 гектараў кантрактуюць індывідуальныя сяляне, а 90 га — СКР у Міхалове. Іншыя культуры: лубін — у 123%, бульба — у 102%, а гарох — толькі ў 8,6%. Трэба сказаць, што на 1 422 гаспадароў умовы падпісалі толькі 875. Тут яшчэ многа працы для актыву гміны. Найлепшыя вынікі маюць вёскі: Крыніца, Скупава і Тарнопаль. Адстаюць жыхары вёсак Лесна, Старое Ляўкова, Семяноўка і Масева.

Калі гаварыць аб кантрактацыі свіней і быдла, дык справа нецікавая. На план 1 820 штук свіней — умовы падпісаны на 1384 штукі, што складае 76%. Быдла на 340 шт. закантрактавана 220 шт. — 64%. Сяляне тлумачацца слабым ураджаем і малою колькасцю кармоў у магазінах. Здаецца, што трэба ўсе рэзервы кінуць на выкананне планаў, бо гэта ж для лепшага нашага жыцця.

**Аляксандр Закройшчык**

## Пад развагу кіраўнікам ПГР і СКР

Надыйшло лета, а з летам збор збожжа. І тут трэба падумаць, каб не марнаваць саломы, бо яна ўсім патрэбна. Некаторыя кіраўнікі ПГР-аў і СКР-аў не паклапаціліся аб тым, каб сваю салому сабраць, а як ім спатрэбілася, дык паехалі купляць па вёсках. Не буду пісаць, дзе гэта было, але прыехалі да ўдавы, якой 80 год, плацілі ёй па 120 зл. за цэнтнер, набралі некалькі прычэп і павезлі ў ПГР. А людзі смяюцца (вось гаспадарацы!). А СКР давай ізноў купляць па вёсцы салому з стагоў, бо свінні плачуць, што ў гразі стаяць, а сваёй саломы ані снапка не сабралі. Так гаспадарыць, па-мойму, нядобра. Вы, кіраўнікі, павінны даваць людзям добры прыклад, каб людзі, на вас углядаючыся, не смяяліся, але яшчэ, як каму не хопіць саломкі, то мог бы ў вас набыць, калісьці так было ў ПГР каля Юраўлян, што ў Крынскай гміне...

**Ніяк**

## Майстар і гаспадар

Дзмітры Дзіда, жыхар вёскі Тафілаўцы Дубіцкай гміны, усім вядомы як майстар „на ўсе рукі“. Ён першы ў вёсцы вынаходца такіх прыладаў і машын, якія працуюць на электрычнасці. Цяпер змайстраваў машыну, якая на электрычны рухавік рэжа лыка з дрэва на саламяныя каробкі. Такой прылады ніхто ў ваколіцы і далей не мае. А трэба прыпомніць, што сям'я Дзідаў вельмі хутка і спраўна пляце саламяныя вырабы. Дзмітры намераны яшчэ да восені зрабіць спецыяльную тасьму (канвеер), якая будзе высыпаць у пограб бульбу, не трэба будзе на плячах цягаць цяжкія мяшкі.

Гэты чалавек мае прыроджаны талент. Ён дасканалы каваль, а таксама робіць магільныя помнікі-крыжы з бетону.

Дзіда і добры гаспадар. Кантрактуе многа збожжа і мяса. Гаспадарчыя будынкі ў яго мураваныя і прыгожыя.

**М. Панфілюк**

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

17.07.76 г. а 9.30 на дарозе Нараў-Макаўка ў самаходзе „Стар“, якім кіраваў Францішак Д., абарвалася кола і стукнула Надзею Н., якая загінула.

18.07.76 г. а 14.30. у час купання ў рацэ Буг утапіўся Славамір В., 10 гадоў.

21.07.76 г. а 7.35 на дарозе Монькі-Кнышын Івана Н., з Паточызны, які ехаў на ровары, стукнуў самаход „Жук“, якім кіраваў Станіслаў Л. Цяжка параненага Івана Н. адвезлі ў бальніцу, дзе ён памёр.

22.07.76 г. а 13.00 у рацэ Локніца ўтапіўся Уладзімір Б., 37 гадоў, з Бельска Падляшскага.

## Чаромхаўскія партыйцы

— Чым займаецца зараз ваша партыйная арганізацыя? — з такім пытаннем звярнуўся я да І сакратара вузлавога камітэта ПАРП ў Чаромсе тав. Лявона Ляскоўскага.

— У апошні час мы працавалі над праграмай, якая паказвае, як павінны дзейнічаць прадпрыемствы, каб павысіць ідэалагічна-палітычнае навучанне, прафесіянальныя кваліфікацыі сваіх працаўнікоў, эстэтыку службовых памяшканняў і г.д. Апрацаваная праграма служыць нам як указанне для працы на працягу двух гадоў. Апрача таго, члены ПАРП актыўна ўключаюцца ў шпаркі рытм нашага штодзённага жыцця, многа працуюць грамадскім чынам на карысць свайго асяроддзя. (ус)

## Новая дарога на стадыён

У Нараўцы ёсць прыгожы (як на патрэбы гміны) стадыён. Ён пабудаваны ўжо некалькі гадоў назад грамадскім чынам жыхарамі вёскі. Аднак у апошні час не было кудою ехаць машынамі. Жыхары дабіліся права ўласнасці на дарогу і загарадзілі яе. На стадыён можна было толькі дайсці.

Улады гміны зацікавіліся справай і вызначылі месца на новую дарогу ад вуліцы Міцкевіча. Пастанова была: будаваць чынам новую дарогу. Працавалі розныя ўстановы: гміна, ЦПН, моладзь. І вось маем прыгожы жвіровы ўезд. Кошт грамадскай працы — 150 тыс. зл.

**Аляксандр Закройшчык**




**Чытачы са Старога Корніна.** (У справе шафёра супрацьпажарнай каманды, які працуе за дзве пенсіі: у Гайнаўцы і Старым Корніне (?) і ці гэта вырашае справу, калі б выбух пажар, а старакорнінскі шафёр быў тым часам на рабоце ў Гайнаўцы). Рэдакцыя пацікавілася б вырашэннем такой справы, каб вы, нашы чытачы, хоць да нашага ведама падпісаліся, хто вы. Ужо колькі разоў мы пісалі ў гэтым месцы, што калі аўтар пісьма хоча застацца невядомым шырокаму кругу чытачоў, то мае на гэта права, але рэдакцыя не хоча і не будзе весці размоў з ананімамі. Мы павінны ведаць прозвішчы нашых аўтараў, і будзем за іх заступацца, калі будзе такая патрэба.

Нядаўна пісьмо паклікала нас у Барысаўку, што ў Гайнаўскай гміне. На месцы аказваецца, што аўтар пісьма жыве ў гэтай вёсцы, але... ён ніякага лісту ў рэдакцыю не пісаў. Нехта зрабіў гэта за яго і без яго ведама. Была гэта крытыка ягонага швагра... Значыць, трацім мы дарма час, а ў дадатак на калдобістай дарозе трэснуў рэсор.

Едзем у іншую вёску, куды нас вельмі запрашае таксама наш чытач і піша вельмі складна і цікава. Пачынаем высвятляць справу на месцы, і аказваецца, што і апісаная справа маецца зусім інакш, і аўтар „запрашэння“ невядомы нікому. Быццам бы ён госць з далёкага космасу.

Са сваіх частых паездак даведваемся, чаму людзі пішуць ананімы. Хтосьці „рыхтуе“ дачку ў прадаўшчыцы (яна заканчвае вучобу і пойдзе самастойна працаваць, але куды?), а мясцовая прадаўшчыца якраз беззаганная, добра спраўляецца на сваёй пасадзе і ніхто да яе не мае ніякіх закідаў. Апрача... ананіма. Ён „уз'язджае“ на добрую рэпутацыю стараннага работніка гандлю. Аказваецца, і на заказ знойдзецца бязмежная людская зласлівасць.

Іншы інфарматар намерыўся пасварыць двух суседзяў, якія былі ў добрых, прыяцельскіх адносінах да сябе. Але гэта не ўдаецца. А калі б інакш... Смяяўся б збоку.

Бывае і так. „Дапамажыце мне аформіць пенсію“, — піша жыхар вёскі Н. У яго пісьме столькі аб вялікай бяздушнасці чыноўнікаў з устаноў, да якіх звярнуўся аўтар пісьма ў ягоным (не ў нашым) разуменні слушнай і абгрунтаванай людской справы. На месцы аказваецца, што гэта пісаў зусім здаровы малады чалавек, які не хоча працаваць, а яшчэ патрабуе грошай. Не згаджаецца на ніводную прапанову працы. Вядома, ён малады і патрабуе грошай. Абы больш. Маладому трэба...

(ця)

## Усё новае

Пры старой Польшчы (пад увагу бяру былы Гайнаўскі павет) у цэлым раёне не была электрыфікавана аніводная вёска. Цяпер святло маюць усе вёскі, прысёлкі, а нават хутары. Ва ўсім павеце цвёрдых дарог было 60 км, адна шаша з Бельска ў Белавежу. Цяпер іх, тых дарог, больш, як 500 км.

Былі пабудаваны зусім новыя дарогі: Гайнаўка-Кляшчэлі, Кляшчэлі-Чаромха, Арэшкава-Старына, Збуч-Чыжы, Клейнікі-Гайнаўка, Курашава-Тыневічы-Ласінка-Гайнаўка, Нарва-Трасцянка-Дубічы Царкоўныя-Стары Корнін, Нараўка-Ляўкова Старое-Ляшукі, Нараўка-Семяноўка і многа іншых мясцовых дарог. А трэба напомніць, што кожны кіламетр дарогі з цвёрдай паверхняй каштуе 1 мільён зл. Колькі ж тых мільёнаў трэба было аддаць на пабудову тых усіх дарог, якія так патрэбны людзям!

**Э. Вайсковіч**

## Каб ГС у Орлі паклапаціўся...

У гарачы час палявых работ варта, каб ГС у Орлі паклапаціўся аб лепшым забеспячэнні крамы ў Крывяцічах хлебам і мяснымі вырабамі. Сяляне не маюць часу ў такую пару на падрыхтоўку ежы. Заўважаецца недахоп аранжады і безалкагольных напіткаў. У жніво трэба прыйсці з дапамогай сялянам. Яны ж цяжка працуюць, часта па 16-17 гадзін у суткі.

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПАКУЛЬ ШТО НІЧОГА КАНКРЭТНАГА

У 21 нумары „Нівы“ ад 23 мая гэтага года была змешчана публікацыя аб тым, як змарнавалі грамадскую ініцыятыву жыхароў вёскі Збуч у Чыжоўскай гміне. У 1970 годзе збучоўскія сяляне вырашылі ўсёй вёскай пабудаваць школу. Раздабылі будаўнічыя матэрыялы, заказалі дзверы і вокны, пасля ўласнымі сіламі пабудавалі высокі стройны фундамент. Ніхто не мог прадбачыць, што праз нейкі час усё спыніцца і ніколі больш не варухнецца наперад. Што ніадкуль не будзе дзейснай дапамогі. А вядома, пры пабудове школьнага будынка жыхары Збуча ўлажылі столькі працы і грошай. І нельга так пакінуць зроблены грамадскім супольным чынам падмурак. Яго і іншыя сабраныя будаўнічыя матэрыялы неабходна выкарыстаць. Мы атрымалі адказ гмінных улад у гэтай справе. Прыводзім яго ніжэй. (ця)

„W odpowiedzi na podanie nadesłane za pośrednictwem Kancelarii Rady Państwa w sprawie budowy obiektu szkolnego we wsi Zbucz — powiadamia się, iż wspólnie z przedstawicielami Kuratorium Oświaty i Wychowania Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku rozpatrzono ponownie przedstawioną sprawę. W czasie spotkania, w którym uczestniczyli również członkowie komitetu budowy wymieniono poglądy w przedmiocie realizacji inwestycji oraz ustalono, że nie istnieją realne możliwości ani potrzeby budowy szkoły w Zbuczu, W świetle obecnie obowiązujących przepisów i istniejących obiektów szkolnych w gminie, a zwłaszcza Zbiorczej Szkoły Gminnej we wsi Czyże oddalonej o trzy kilometry od wsi Zbucz przedsięwzięcie to nie znajduje uzasadnienia. Zgromadzone materiały budowlane stanowiące własność Skarbu Państwa zakupione przez były Wydział Oświaty w Hajnówce zostaną zużyte na potrzeby szkolne przez dyrekcję Zbiorczej Szkoły Gminnej w Czyżach. Składowanie materiałów częściowo zostało już uporządkowane.

Budowa świetlicy lub innego obiektu może być przedmiotem rozważań po stwierdzeniu konieczności budowy, ustaleniu inwestora i przygotowaniu dokumentacji. Obecnie istnieje realna możliwość urządzenia klubu Rolnika w dotychczasowym budynku szkolnym”.

Naczelnik Gminy
B. Nowik

**ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву“!**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

## Вада цячэ ўніз

Я ўскочыў у кабінет домакіраўніка і з парогу крыкнуў:

— Таварыш Фількін, дапамажыце, бяда!

— Сядайце, — сказаў ён пагодна. — Аддыхайцеся спачатку. Здароўе, паважаны жыхар, берагчы трэба.

— Калі тут сядзець! — яшчэ мацней закрычаў я. — Кран на кухні вырвала!

— Ну і што? Што тут страшнага? У мяне сёння зуб вырвалі, а я не крычу... Якім рэжымам цячэ?

— Як — якім?

— У вас пытаюцца, як цячэ вада: капае, цурчыць ці фантаніць?

— Свішча, як з трубы.

— Што значыць — як з трубы? Удакладніце, якім рэжымам цячэ?

— Свішча. З усяе сілы б'е.

— Вось цяпер зразумела. А якая вада?

— Халодная.

— Халодная можа пачакаць... Бачыце, вось у мяне дзед сядзіць. У яго ў ванне ўжо добрую гадзіну гарачая вада фантаніруе. А чалавек цярплівы чакае.

— Зразумейце, таварыш домакіраўнік, — стукаю сябе ў грудзі. — Вада хутка ўсю кватэру зальe!

— Не зальe. Вада па законах фізікі заўсёды ўніз імкнецца. А калі трэба будзе, мы і апаратўнасць праявім.

Я сеў на канапу, закурыў...

— Ну, няхай цячэ, — кажу спакойна. — Халодная вада можа і пачакаць. Тым больш, што па законах фізікі яна цячэ ўніз. У вашу кватэру.

З-пад Фількіна паляцела крэсла. У мяне першы разрад па бегу, але домакіраўнік абагнаў мяне.

**М. Застольскі.**



— *Будзь кавалерам, сынок, уступі месца цёці.*

### ЦАНА ЧУЛАСЦІ

— Які ты нячулы! Бачыш, што я плачу, і нават не спытаеш, чаму? — сказала жонка.

— Бо мае папярэднія пытанні каштавалі мне дзве сукенкі і адно футра! — адказаў муж.




### ЗНАЙШОЎ ВЫЙСЦЕ

Адзін задрыпанец часта піў. Аднойчы, не маючы грошай на гарэлку, ён узяў у каморы мяшок жыта і панёс на базар прадаваць. Жонка дагнала яго і крычыць на ўвесь базар:

— Вось, вазьмі чырвонец і аддай жыта.

— Глядзіце, людзі добрыя! — адказвае муж.

— Якая дурная! Хоча за чырвонец мяшок жыта купіць.






*Перад вяселлем і... пасля.*

### КАСТУСЬ У ГОРАДЗЕ

Парфен і Кастусь паехалі ў горад. Зайшлі ў рэстаран, заказалі на снеданне вараныя яйкі. Разбілі адно, другое, трэцяе... ва ўсіх былі кураняты. Яйкі аказаліся насяджаныя. Парфен разгневаўся і хацеў паклікаць афіцыянтку, ды Кастусь спыніў яго:

— Тсс, маўчы, нічога не гавары! А то з нас здзяруць за куранятак.

### ПРЫЗНАННЕ Ў КАХАННІ

— Дарагая, мне так цяжка знайсці неабходныя словы...

— Іх і не трэба, калі ў цябе ёсць неабходныя лічбы.



— *Як хутка растуць дзеці...*

### БАБКА ЕЎКА

Бабка Еўка прынесла ў майстэрню сапсаваны электрычны прас. Скардзіцца:

— Што гэта цяпер за жалязка робяць? Толькі і ведаеш, што носіш іх на рамонт — усё перагараюць і перагараюць... Вось калісь былі жалязка! Было ўкінеш у печ і забудзеш. А тады ўжо ў попеле знойдзеш — а яно і не перагарэла. У мяне яшчэ і дасюль ёсць такое адно. І дасюль, скажу вам, спраўна служыць — мой стары на ім цвікі прастуе.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Сеньёр капітан, дазвольце далажыць: наш камандзір аддзялення зноў п'яны!

— Адкуль ты ведаеш?

— Ён зноў голіць сваё люстэрка.

*

Малады габравец пасылаў сваю фатаграфію нявесце. Каб не плаціць за маркі, ён напісаў на канверце:

— Бясплатны ўзор.

*

Аматар збірання аўтографаў вяртаецца дамоў і ўрачыста кажа жонцы:

— Дарагая! У мяне пісьмо Віктара Гюго!

— Няўжо? — абыякава азвалася тая. — Што ж ён табе піша?

*

Жонка гаворыць мужу:

— Гэта праўда, што кошкі — жывёлы, поўныя жорсткасці, эгаізму і двудушша?

— Гэта так, маё кацянё, — адказаў муж.




**Тое, што мы не бачым невідзімак, яшчэ не даказвае, што іх няма.**



*Грэючыся ў праменнях Вялікага Мастацтва.*

### ПРЫТЧА

*Чуў неяк я: у дальняй старане,*
*(У Індыі ці што) ёсць гэтакае свята:*
*Аднойчы вечарам цудоўным па вясне*
*Людзей на плошчу сходзіцца багата.*
*Калі цябе да славы цягне ўкрай,*
*Калі адчуў, што побач ёсць кабета,*
*Залазь на слуп і опус свой чытай —*
*Уважна людзі слухаюць паэта.*
*Як па душы — пачціваць аддаюць,*
*Б'юць у далоні гулка без упыну,*
*А не — то хоць паэта і не б'юць,*
*Але прымаюць ад слупа драбіны.*
*Цяпер даўмеліся, сакрэт у чым?*
*Тут — кліч ні кліч ніхто не дапаможа:*
*Калі даў зевака — на слупе тым*
*Аж да світання кукарэкаць можаш.*

*Ці ёсць мараль у прытчы?*
*Ёсць якраз.*
*(Яе на заканчэнне я пакінуў):*
*Сказаў з трыбуны штосьці — і тут жа злазь,*
*Не забывай ніколі пра драбіны.*

**Пятро Рабро**

### ЯК ДЛЯ КАГО

Колькі табе гадоў? — запытаў у Міколкі нейкі дзядзька ў аўтобусе.

— Калі вы кантралёр, то чатыры, а калі не, то пяць з паловай.



— *Ну, заяц, пачакай!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ані і Бажэны з Белавежы, К. Сакалоўскай з Піражкоў, І. Несцярук з Дубіч Царкоўных, Н. Нікіцюк са Ступнік, Г. Лук'янюк і І. Касцючук з Кожына, Я. Анішчук, Я. Апалінскага, Ю. Якімюка і Л. Андрэюка з Зубава, З. Іванюк і У. Парфенюка з Трашчотак змяшчаем песню:

## Na przekór wszystkim będę spać

**słowa: Bogdan Olewicz**
**muzyka: Antoni Kopff**
**śpiewa: Alicja Majewska**
Za oknem karnawał trwa
Jak szybko schnie dzisiaj łza
Niewinność o życie gra
Szkoda kart
Silniejsi górą
Zegary biją bim bom
Nade mną rodzinny sąd
A ja nie ruszę się stąd
Oh! nie
Co mi tam
Ja — na przekór wszystkim będę spać
I nie dam się obudzić
Bo ja tam mam o wiele lepszy świat
Nie tęskno wcale mi do ludzi
Ja — na przekór wszystkim będę spać
I proszę mnie nie budzić
Bo ja tam mam o wiele lepszy świat
Nie budźcie proszę
Nie budźcie mnie ze snu.
Za złoto kupisz co chcesz
Uczucia na wagę bierz
O zostań świętym lub grzesz
Jak sam chcesz
Świat ci wybaczy
Za oknem orkiestra gra
Pan młody wygładza frak
Weselnych gości sznur, gwar
A ja...
Co mi tam
Ja — na przekór wszystkim itd.



**ВЫНАХОДНІК — ПІША ВІЛАМІ ПА ВАДЗЕ І АТРЫМЛІВАЕ КОПІІ.**

## Курёзы

### „ЯК У КАРАЛЕЎСКАЙ СЯМ'І..."

Англійская газета „Дэйлі мірар" папрасіла адгукнуцца тых сваіх чытачоў, у якіх дзень нараджэння вызначаецца якім-небудзь супадзеннем. Пісьмаў у рэдакцыю прыйшло нямала: Шэйла Грынфард, напрыклад, паведамляе: „У мяне ёсць сястра-блізня. Мы нарадзіліся 19 красавіка. У мінулым годзе ў той жа дзень і я і яна нарадзілі па двайнятах...". „Мой бацька і маці пажаніліся 30 студзеня, — піша Р. Дж. Рычардс. — Праз год у гэты дзень нарадзіўся мой брат, а яшчэ праз два гады — я". У Норын Тэйлар унук нарадзіўся 29 лістапада, у дзень нараджэння мужа, а ўнучка — 29 верасня, у яе дзень нараджэння... Але ўсё гэта хоць і дзіўныя, аднак жа „радавыя" супадзенні. Затое, як не без гонару адзначаюць Мідлтаны, у іх сям'і „усё як у каралеўскай сям'і: малодшая дачка нарадзілася ў дзень нараджэння каралевы, унук — у дзень нараджэння прынца Філіпа, другі ўнук — у дзень нараджэння прынцэсы Маргарэт. Незапоўненай заставалася толькі дата нараджэння прынца Уэльскага. Але ў мінулым годзе ў гэты дзень у нас нарадзілася ўнучка".

### НОВЫЯ ГЛАДЫЯТАРЫ

Гэту навіну адразу разнеслі органы масавай інфармацыі Злучаных Штатаў: сенсацыя — адзінаборства чалавека з акулай. Басейн у Сан-Францыска, у якім праводзілася гэта жорсткая прэм'ера, меў усяго дваццаціметровую акружнасць. У белай акулы была зброя, якую дала ёй прырода: вастрэйшыя зубы, магутны хвост. У чалавека — толькі падводнае ружжо. На гэты раз шчасце было на баку навая̆ўленага гладыятара... Як паведамляе прэса, амерыканскія аматары „вострых адчуванняў", якія насіліся з ідэяй уваскрэсіць у той ці іншай форме бai гладыятараў, засталіся задаволеныя.